Гомельская гарадская арганізацыя

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"




# Дапаможнік па правядзенні заняткаў беларускай мовы

# "Мова дзяцей"

Узрост 3-6

Аўтар Алеся Аўласевіч

Гомель
2016

## Уступнае слова ад аўтара

Я заўсёды марыла працаваць у школе, а пасля першай практыкі ўпэўнілася ў сваім выбары. Я ўзгадавалася ў сям'і настаўнікаў, прафесараў ды дацэнтаў, таму з дзяцінства была ў школьнай тэматыцы, бачыла іншы бок педагагічнай працы і, як мне падавалася, была гатовая да ўсяго.

Мой свядомы выбар дапамагаў вучыцца, і я добра ўяўляла сябе пасля ўніверсітэта. Я ўладкавалася ў гомельскую школу і сутыкнулася з вялікай колькасцю праблем сістэмы адукацыі.

Мяне прызначылі настаўніцай англійскай мовы старэйшых класаў і ўзнагародзілі максімальнай колькасцю гадзін. Усе маладыя настаўнікі выпісвалі за свае грошы безінфарматыўныя газеты, ездзілі да загвучаў па адміністрацыях ды семінарах, задарма замянялі захварэўшых настаўнікаў, а ў гэты час адміністрацыя прыніжала нашую чалавечую годнасць.

Я рэалізоўвала сябе праз творчасць з дзецьмі і імкнулася даць ім максімум таго, што ведаю. Мае вучні ў 11 класе не ўсе ўмелі чытаць па-англійску, мы неафіцыйна ішлі па асобнай праграме і паступова засвойвалі вялікі пласт ведаў за папярэднія гады.

Пры гэтым я бачыла сваю задачу ў тым, каб на занятках выхаваць у дзяцей, прынамсі, пазітыўнае стаўленне да англійскай мовы. Іх усмешкі і першыя поспехі захісталі ўсе недахопы адукацыйнай сістэмы, якая руйнавала і ламала самых лепшых настаўнікаў.

Немагчыма быць увесь час у абарончай пазіцыі, апраўдвацца і тлумачыць, чаму я выкарыстоўваю нетрадыцыйныя метады научання: мы спявалі песні, танчылі, гулялі ў моўныя гульні, і не раз я чула ад загвуча, што гэтыя спосабы "смешныя і дзіцячыя". Канешне, ва ўсім патрэбна мера, але індывідуальны падыход і крэатыўныя заданні давалі вялікі плён.

Акрамя старэйшых класаў, я працавала з першакласнікамі, і менавіта яны ўпэўнілі, што ўсё-ткі маё месца ў школе.

У Гомельскім ТБМ мы арганізавалі заняткі гуртка дадатковай адукацыі для  самых маленькіх дзетак, якія не маюць магчымасці навучацца па-беларуску ў садах.

На заняткі "Мова дзяцей" мяне натхнілі бацькі, якія хацелі, каб іх дзеці навучаліся ў дзіцячых садах на роднай мове, але сутыкнуліся з вялікай колькасцю патрабаванняў і праблем. Таксама да нас далучыліся ўсе жадаючыя і шмат якія бацькі, якія бачылі ў гэтым дадатковую адукацыю.

Для нас было нечаканасцю запатрабаванасць гэтых заняткаў: колькасць ахвочых наведваць іх увесь час павялічваецца.

У дапаможніку прадстаўлена структура заняткаў і прыклады ўрокаў, якія вы можаце вольна выкарыстоўваць на сваіх занятках з дзеткамі цалкам, альбо браць найбольш цікавыя кавалачкі. Мы не маем камерцыйнай мэты, не прэтэндуем на аўтарства

ілюстрацый і просім успрымаць раздрукоўкі з падручнікаў у якасці прыкладу падчас распрацоўкі сваіх планаў заняткаў.

Дапаможнік будзе аднаўляцца, ён адкрыты для супрацы, прапановаў ды крытыкі.

gomeltbm@gmail.com

## Структура заняткаў

На пачатку было цяжка ўявіць, як будуць выглядаць заняткі, таму канчатковая струкутура - плён вялікай працы. Практыка і рэакцыя дзяцей на розныя актыўнасці паказалі, на што варта звяртаць увагу, а што дзецям цяжка, альбо не вельмі цікава. Калі вы праводзіце беларускамоўныя заняткі, то варта працаваць з кожным наведвальнікам і мець розныя заданні для кожнага ўзросту.

Усе па-рознаму прыходзяць на заняткі, кожны са сваім настроем, нехта ўжо пасля нейкіх заняткаў, фітнесу, школы ці спеваў. Трэба наладзіць на працу, але каб дзеці не ўзрушыліся, але наадварот – супакоіліся. На першых занятках мы ўключалі музыку, дзеці пачыналі бегаць па пакоі, і працоўны лад наладзіць было ўжо немагчыма. Таму раю **размаўляць з дзеткамі**. Не хвалюйцеся, яны вас зразумеюць, калі вы будзеце казаць павольна і натуральна. Імкніцеся не пераходзіць на рускую мову.

Пасля размовы трэба **зрабіць зарадку** альбо **згуляць у гульню**. Нам бракавала беларускамоўных размінак, таму як толькі скончыліся ўсе размінкі ад гурта "Агатка", то сталі выкарыстоўваць гульні.

Пасля гульні пачынаецца **праца з лексікай**: паўтараем старое і вывучаем новае. Тэмы выбірайце ў залежнасці ад сезону, каб дзеці адразу маглі іх неяк выкарыстаць. Напрыклад, у ліпені варта вывучыць назвы ягад, а ў верасні – вопратку. Пасля прэзентацыі і паўтарэнняў варта замацаваць гэта ў моўнай гульні.

**Вывучэнне літары**, чытанне верша і пошук літары ў тэксце. Тыя дзеці, што ўжо чытаюць, могуць прэзентаваць верш іншым, але абавязкова варта самім прачытаць і задаць пытанні на разуменне верша, бо бывае шмат складаных для дзяцей словаў.

Вы маеце права ігнараваць структуру і прыдумаць сваю. Шмат што залежыць ад сітуацыі і ад кожнага занятка. Трэба мець уяўленне, што вы будзеце рабіць з дзецьмі і прытрымлівацца ведаў, што маеце.

Напрыканцы абавязкова праводзьце рэфлексію, імкніцеся атрымаць водгук ад дзетак і прааналізаваць, што ім спадабалася, а што не.



**Пачатак занятка**

Адзін з самых важных момантаў гуртка. Наступным важным этапам у працы стане рэфлексія, калі мы будзем для сябе аналізаваць працу групы.

Пытанні могуць быць рознымі, гэта можа быць адно на ўсіх, альбо для кожнага сваё. Лепей пускаць па коле цацку альбо мячык, каб было бачна, хто кажа, каб дзеці адчувалі, што не трэба перапыняць, і важна слухаць таго, хто кажа. Пытанні могуць быць на адну тэматыку, ці ніяк не звязаныя паміж сабой. Практыка паказала, што малодшым дзецям цікавей адказваць на адно і тое ж пытанне, але калі адказы пачынаюць паўтарацца, варта задаць новае пытанне.

Лексіка можа быць незразумелая, але трэба задаць пытанне, суправаджаючы яго жэстамі, рухамі, каб можна было здагадацца, што мае на ўвазе вядоўца.

- Ці падабаецца табе сённяшняе надвор'е?

- Як ты сёння прачнуўся?

- Што еў на сняданак? А якая страва ў цябе самая ўлюбёная? А што не любіш есці?

- Колькі разоў ты чысціш зубы? Ці робіш зарадку?

Вазьміце цацку і перадавайце яе па коле, задавайце пытанні: Якая цацка ў цябе ў руках? Якога яна колеру? Ці прыемная яна навобмацак? Ці падабаецца табе цацка? Як бы ты яе назваў? і г. д.

- Якая твая ўлюбёная пара году? Ці рабіў калі-небудзь снегавіка?

- Ці еў ты блінцы? А аладкі? Што табе больш падабаецца ў дадатак да іх: сочыва ці смятана? А якое сочыва ўлюбёнае?

- А якая зараз пара году? А які месяц? А ведаеш чаму ён так называецца?

- Ці ёсць у цябе котка? А хто табе больш падабаецца – котка ці сабака?

- А якое імя табе падабаецца?

Дзецям бывае цікава даведацца і пра вас, дазваляйце задаваць пытанні вам, і шчыра на іх адказвайце. Гэтым прыкладам вы пакажаце, што выхавацелю і настаўніку можна задаваць пытанні, не трэба баяцца нешта спытаць. **Нашая задача не навучыць, а навучыць іх вучыцца.**

- Ці ёсць у цябе ўлюбёная цацка? Чаму ты яе любіш?

Вельмі раю не задаваць пытанні кшталту:

- А з чым твая *маці* гатуе блінцы?
- Як часта бываеш у *бабулі*?
- Хто гуляе з *таткам* у футбол летам?

Не ўсе сем'і поўныя і не трэба ставіць дзяцей у няёмкае становішча.

## Гульні з дзецьмі

Трэба ведаць гэтыя гульні па памяці, каб калі што, уставіць іх у любы этап занятку. Гульні варта выбіраць у адпаведнасці з мэтай, месцам, лексічнай тэмай, часам і цікаўнасцямі групы.

Праз гульнявую форму дзеткі могуць шмат запомніць і вывучыць. З маленькімі дзеткамі лепей выкарыстоўваць гульні з простымі правіламі і сюжэтам.

Актыўныя гульні выкарыстоўвайце напачатку занятка, а спакойныя – напрыканцы.

**Непаслухмяны балонік**

Дзеці становяцца ў кола, і балонік першы раз проста праходзіць ад аднаго дзіцяці да іншага. На другім коле трэба паспрабаваць зрабіць гэта хутчэй. На трэцім – зусім хутка перадаць па коле. На чацвертым – павярнуцца спінамі і перадаваць. На пятым – зрабіць гэта хутчэй. Перадаць балонік з узнятымі дагары рукамі. Паспрабуйце прыдумаць розныя варыяцыі і сачыце, каб гэта не надакучыла.

**Фантан**

Бярэм газеты альбо непатрэбныя аркушы. Даем па два кожнаму, прапануем скамечыць іх і ўзяць у дзве рукі. Задаваць пытанні: Як вам папера навобмацак? Цяжкая ці лёгкая? Паслухмяная ці не?

Дзеці становяцца ў вузкае кола і робяць фантан, падкідваючы да столі свае скамечаныя мячыкі з паперы. Збіраюць самі і паўтараюць тое ж самае некалькі разоў.

**Сіямскія блізняткі**

Прапанаваць дзеткам разбіцца на пары і ўявіць сябе сіямскімі блізняткамі, абняцца за пояс і паспрабаваць разам пахадзіць, папрыгаць, прысесці, патанчыць і памаляваць.

**Якая фігура**

Намаляваць на дошцы па чарзе сем-восем фігур і прапанаваць групе запомніць, якія фігуры там былі і ў якой паслядоўнасці маляваліся. Даць пяць хвілін, каб дзеці намалявалі іх у той паслядоўнасці, у якой фігуры з'ўляліся на дошцы. Можна паказваць малюнкі па чарзе, але лепей маляваць, каб самыя маленькія паўтарылі, як фігуры ствараюцца.

**Праменьчыкі**

Нам спатрэбяцца выявы птушкі, зайца, пеўніка і пчолкі. Выявы могуць быць на экране.

Вы распавядаеце, паказваеце рухі і дзеці паўтараюць за вамі. Лепей стаць у кола: "Я хачу вам распавесці казку пра сонечныя праменьчыкі. Выплыла на неба чырвонае сонейка і стала выпраменьваць святло і будзіць дзетак і дарослых (*рукамі паказаць сонца, пацягнуцца да яго, павітацца з ім і рукамі паказаць промні*). Першы праменьчык паляцеў і патрапіў у птушынае гняздо. Прачнулася птушка, запела песенку і паляцела далёка і

высока-высока (*паказаць выяву птушкі, прачнуцца, прапець "ціў-ціў" і паляцець як птушка*). Другі прамень трапіў на зайца. Ён паварушыў вушамі і весела заскокаў па лузе *(паказаць выяву зайца, паскокаць).* Трэці праменьчык трапіў у куратнік, пеўнік закукарэкаў, пахлопаў пёркамі *(дзеці імітуюць рухі па тэксце).* Чацверты прамень трапіў у вулей. Там прачнуласа пчолка, села на вакенца, расправіла крылцы, зазвінела і паляцела збіраць смачны мёд. Пяты прамень трапіў у пакой да дзетак, якія яшчэ спалі. Яны прачнуліся, заўсміхаліся, пацягнуліся, зрабілі зарадку, прыбралі ложак, пабеглі есці кашу, пачысцілі зубкі і пайшлі шпацыраваць".

**Хто гэта?**

Уключыць гукі розных жывёлаў, каб было як мінімум 10 і спытаць якіх жывёлаў дзеткі пачулі.

**Марозіва**

Гульня добра падыходзіць, каб супакоіць групу. Прапанаваць дзеткам устаць у кола і спытаць, якое марозіва яны любяць. Прапанаваць ім уявіць, што яны самі сталі марозівам і запытацца, якія яны на смак, якога колеру. Пачаць таяць, як марозіва і зусім легчы на падлогу.

**Тры далоні**

З  паперы падрыхтаваць далоні рознага колеру: чырвоную, зялёную і жоўтую. Па правілах, калі выхавацель паказвае чырвоную – дзеткі заміраюць на месцы, калі жоўтую – спакойна перасоўваюцца па пакою, а калі зялёную, то можна бегаць і скокаць. Паказваць далоні трэба па чарзе.

**Куры ў агародзе**

З дапамогай даўгой стужкі фармуецца на падлозе круг. Гэта агарод для курак. Недалёка ставіцца крэсла, куды садзіцца ахоўнік агарода, на пачатку гэта павінен быць выхавацель. Дзеткі становяцца куркамі, якія хочуць патрапіць у агарод і застацца незаўважанымі ахоўнікам. Калі ахоўнік садзіцца на крэсла, то дзеткі могуць уваходзіць у кола агарода і пачынаюць там бегаць, а калі ахоўнік пляскае ў ладкі, то куркі ўцякаюць.

**Незвычайны шпацыр**

На падлозе выкласці непатрэбныя газеты, гэта будзе сцежка, па якой дзеці будуць хадзіць. Прапанаваць прайсці так, нібыта гэта не сцежка, а слізкі лёд, гарачы пясок, гурбіны снегу, тонкі лёд, поле з высокай травой і іншыя варыянты.

**Рэфлексія на занятках**

У маім разуменні рэфлексія – гэта крок да актыўнасці і свядомасці, гэтага так часта бракуе ў садку. Выхаваць уменне разважаць і аналізаваць сваю дзейнасць – стратэгічная мэта заняткаў.

Нашая задача прыгадаць тое, што мы вывучылі, прааналізаваць стан групы, зразумець што не спадабалася, а што было самым запамінальным на занятку. Рэфлексія можна вольна выкарыстоўвацца і падчас занятку.

**Настрой па колерам Люшэра**

Дзеці выбіраюць любы колер (іх павінна быць некалькі варыянтаў кожага) і кожны з іх кажа, што яму спадабалася, выкладчык можа задаваць дадатковыя пытанні, каб лепей зразумець выбар колера навучэнцам.

Ружовы, памаранчавы - радасць

Чырвоны - нервовасць, агрэсія, узрушаны стан.

Сіні - пасіўнасць, стомленасць.

Зялёны - актыўнасць.

Насычаны зялёны - бездапаможнасць.

Жоўты - прыемны настрой.

Фіялетавы - трывожны стан, амаль расчараванне.

Шэры - замкнёнасць, засмучэнне.

Чорны - пратэст, адмаўленне.

Карычневы - пасіўнасць, няўпэўненасць, неспакой.

**Дрэва занятка**

На ватмане зрабіць ствол дрэва і прапанаваць дзецям прыляпіць на дрэва лісце, кветкі ці плады. Растлумачыць, што плады – "я шмат даведаўся і зрабіў", кветкі – "усё някепска, мне спадабалася", лісце – "не вельмі спадабалася, хочацца чагосці іншага".

Нават дарослыя любяць прымаць удзел у рэфлексіі, ім таксама цікава выказаць сваё меркаванне і паказаць стаўленне да заняткаў.

**Святлафор**

У дзяцей ёсць карткі рознага колеру. Іх можна выкарыстоўваць пасля кожнай актыўнасці, альбо зрабіць напрыканцы.

Зялёны - паболей, хачу яшчэ, вельмі спадабалася, было пазнавальна.

Жоўты - мне спадабалася, цікава, але не ўсё.

Чырвоны - мне зусім не спадабалася, сумна.

**Сонейка**

Выявы ляжаць на стале, дзеці выбіраюць, што ім бліжэй да настрою: сонейка, сонца з хмаркай, хмарка, хмарка з дожджыкам, хмарка з маланкай.

**Ялінка**

На ватмане намаляваная ялінка, і дзеці вешаюць на яе шары з паперы, якія яны самі размалёўваюць у адпаведнасці са сваім настроем.

Па тым жа прынцыпе можна зрабіць палянку і дамовіцца аб значэнні матылька, кветкі, грыбочка ці ягад.

**Настрой гномаў**

Раздрукаваць і выразаць выявы гномікаў з мультфільма пра Беласнежку, прапанаваць дзецям абраць сабе аднаго і растлумачыць, які ў іх настрой ад занятка, і які настрой у гнома. Хутчэй за ўсё, дзеці папросяць забраць выявы з сабой.

**Тэма:** "Знаёмства, вітанне вясны"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэмах "Вясна", "Жывёлы", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд;

2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), садзейнічаць развіццю ўменння, ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;

3. Выхаваўчыя: актывізаваць пазнавальную ініцыятыву навучэнцаў і фармаваць іх сацыяльную кампетэнтнасць, ствараць умовы для сацыялізацыі і самаразвіцця, развіваць культуру ўзаемадзеяння з пагодкамі.

**Абсталяванне:**

- клубок нітак
- аўдыёзапіс "Агатка - Ранішняя зарадка"
- ноўтбук, калонкі, праектар
- фламастэры, алоўкі
- прэзентацыя па вершу
- аркушы з галінкай, нарыхтоўкі
- клей, нажніцы
- аркушы з выявамі сонейка.

**Літаратура:**


1) Секреты Самоделкіна. 4-5 лет: пособие для воспитанников учреждений дошкольного образования/ Н. А. Юрченко. - Минск: Новое знание, 2014.

2) Маладзічок: Апавяданні, вершы, загадкі, казкі, прыказкі, прымаўкі / уклад. Т. І. Фаменка. - Мінск : Маст. літ., 2009.

| Этап | Змест | Час (хвіліны) | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю, сябры. Мяне завуць Алеся і я ваш выкладчык. Мне хочацца пазнаёміцца з вамі і даведацца вашыя імёны.<br>Зараз я бяру клубок нітак, абмотваю ім свой палец, кажу сваё імя і перадаю іншаму, гэты чалавечак таксама кажа сваё імя і перадае наступнаму. Мы з вамі зробім павуцінне з нашых імёнаў.<br>Давайце скруцім клубочак назад і прыгадаем як усіх зваць. | 6 | Спатрэбіцца клубок нітак. |
| Размінка | Як вы сёння прачнуліся? Ці хацелася ўздымацца? Давайце патанчым трошкі і паслухаем, як прайшла раніца ў герояў нашай песенкі.<br><br>З распісанымі дзеямі:<br>*На страсе прачнуўся бусел,* (далонькі на твар, потым адымаем)<br>*Доўгай шыяй пацягнуўся,* (цягнемся галавой, носікамі дагары)<br>*Распрастаў шырока крылы* – (разводзім рукі ў розныя бакі)<br>*Пёркі ветрам закруціла* (круцім далонямі, пальчыкамі).<br>*А на двор бяжыць сабачка,* (тупаем ножкамі, рукамі дапамагаем бегчы),<br>*Круціць хвосцікам там качка,* (круцім попамі, разаграем сабе цяглiцы, распрацоўваем пазваночнік, талію, суставы),<br>*І выходзіць - рукі ў бокі –*<br>*Гаспадар да іх высокі.* (паважна выступаем, рукі ў бокі, спіна раскрытая, роўная, галава высока задраная).<br><br>*Размінку можна паўтарыць. | 4 | Аўдыёзапіс "Агатка - Ранішняя зарадка", калонкі, ноўтбук. |
| Моўны | А хто ведае якая зараз пара году? А які месяц? Правільна, красавік – другі месяц вясны, назва яго паходзіць ад слова "красавац". У красавіку ў поўную сілу крочыць па зямлі красуня-вясна. Сонца грэе ўсё цяплей, так? Ці любіце вы вясну? Чаму?<br>Паглядзіце на экран і паслухайце верш пра першы крок вясны.<br><br>*Ціхі, нетаропкі*<br>*першы крок вясны.*<br>*Пад страхою кропкі* | 7 | Прэзентацыя з выявамі, адпаведнымі тэксту, ноўтбук, праэктар. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | *Капяжоў відны.*<br>*Вочкамі пупышак*<br>*Глянула лаза.*<br>*Лось на сонца выйшаў,*<br>*Выйшлі дзік, каза.*<br>*Сцежкі пацямнелі,*<br>*Снег сыры асеў.*<br>*Хутка ўбачу ў небе*<br>*Качак і гусей.*<br>*Я пайшоў на ўзлесак*<br>*Сустракаць вясну,*<br>*Шмат знайшоў пралесак,*<br>*Хоць бы ўзяў адну.* (Паўлюк Пранузa)<br><br>Чаму вясна ідзе ціха і нетаропка? Ці заўважылі колькі птушак прыляцела?<br>А давайце зробім птушку самі? | | |
| Мастацка-эстэтычны | *Дзеці атрымоўваюць аркуш з выявай галінкі і папяровыя нарыхтоўкі. Крылы і хвост надразаюцца бахрамой. На аснову прыклеіваюцца тулава, галава, дзюбка, хвост, крыло. Клей наносіцца толькі на ненарэзаную частку. Ад прастакутніка адрываецца рукамі без нажніц папера у выглядзе лісцікаў і прыклейваецца да галінкі.* | 12 | Аркушы з галінкай, нарыхтоўкі, клей, нажніцы. |
| Сацыяльна-камунікатыўны | Стаміліся? Давайце пагуляем у гульню. Але перад гэтым прыгадаем якія гукі вымаўляюць розныя жывёлы. Я паказваю картку і мы з вамі разам гучна робімся гэтымі жывёламі.<br>** карова, свіння, каза, конь, курыца, сабака, тыгр, качка, воўк, мядзведзь, котка....*<br><br>Кожны атрымае па картцы з выявай жывёлы і вы будзеце хадзіць па пакоі і вымаўляць гук гэтай жывёлы. Вам трэба знайсці пару: у каго такая ж жывёла.<br><br>Ці спадабалася вам гульня? | 3+5 | Карткі з жывёламі ў двух экзэмплярах. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рэфлексія | Дзякуй вялікі за працу, зараз вы атрымаеце аркуш з выявамі сонейка. Якое сонейка адпавядае вашаму настрою?<br><br>Давайце ўстанем у кола і скажам адзін аднаму: "Дзякуй!" | 3 | Аркушы з выявамі сонейка. |

**Тэма:** "Літара А, а, загадкі"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэмах "Вясна", "Кватэра", развіваць уменне ўспрымання беларускай мовы на слых праз загадкі, паўтарыць назвы геаметрычных фігур, вывучыць літару "А,а", развіваць агульны светапогляд;

2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), развіваць фанематычны слых, садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць, развіваць здольнасць выбару і аналізу;

3. Выхаваўчыя: выхоўваць культуру мыслення, ствараць умовы для сацыялізацыі, фармаванне ветлівасці.

**Абсталяванне:**

- мячык
- аўдыёзапіс "Агатка- Размінка на гістарычны занятак"
- аркушы з вершам
- фламастэры, алоўкі
- прэзентацыя, ноўтбук/выявы слоў
- аркушы з загадкамі і выявамі адгадак
- карткі "Чацвёрты залішні", разрэзаныя фігуры ў чатырох экзэмплярах
- цацка

**Літаратура:**


1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.

2) Вершы - загадкі / Церашкова А., - Мінск: Маст. літ., 2012.

3) Навстречу математике: учеб. нагляд. пособие для педагогов учреждений дошк. образования с рус. яз. обучения / И. В. Житко. - 2-е изд. - Минск : Пачатковая школа, 2014. - 24 с. - (Мир детства).

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю, сябры. Нагадваю, што мне завуць Алеся. Як ваш настрой?<br><br>Давайце нагадаем адзін адному як нас зваць. Калі вам кідаюць мячык, вы кажаце, як вас завуць і кідаеце мячык іншаму. А цяпер скажам імя суседа. | 4 | Спатрэбіцца мячык. |
| Размінка | Давайце прачнемся разам з размінкай.<br><br>**Ложак добранька заслалі, (нахіляемся, рукі разводзім у розныя бакі)<br>Пацягнуліся, як след. (на дыбачкі ўверх, цягнемся)<br>Навукоўцамі мы сталі – (паказваем, як гартаюць кнігу і галавой улева-ўправа)<br>Вывучаем гэты свет. (паказваем, як трымаем лупу, набліжаем і аддаляем галаву – наперад і назад)<br>У гісторыю мы крочым, (хадзьба на месцы, высока ўзнімаем ногі)<br>У мінулае бяжым, (бег на месцы, спрабуем пяткай дакрануцца да сцёгнаў)<br>Каб пабачыць дні, і ночы, (дзень паказваем, адхіляючыся назад і раскрываючы рукі, ноч – прысядаючы і закрываючы твар далонькамі)<br>І народ, які тут жыў (паказваем ручкамі на сябе, потым вакол).* | 3 | Аўдыёзапіс "Размінка на гістарычны занятак". |
| Моўны | А вы ведаеце літары? А хто ўжо вучыцца чытаць? Паглядзіце на літару "А,а". Ведаеце словы на гэтую літару? Глядзіце на экран: агурок, аловак, ананас, абрыкос. А чыё імя ў нашай групе пачынаецца з літары "а"?<br><br>Зараз вы атрымаеце аркуш з вершам, вам трэба абвесці фламастэрам літару "а".<br>А перад гэтым я чытаю вам верш.<br>Хто ведае што такое "чубаты" ананас?<br><br>*Абрыкосы, апельсіны<br>І чубаты ананас<br>Мы нясём для Ангеліны,<br>Што чакае ў госці нас.*<br><br>Пакажыце што ў вас атрымалася. А якія яшчэ словы вы ведаеце з літарай "А"? | 4 | Прэзентацыя са словамі, якія пачынаюцца на "а" / малюнкі са словамі.<br><br>Аркушы з вершам. Фламастэры, алоўкі. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Засвойванне ведаў | Зараз на вашых аркушыках ёсць загадкі, якія я буду вам чытаць, а вы – адгадваць. Паспрабуйце адгадаць, пра што ідзе гаворка.<br><br>*На дзвярах заўжды вішу* -<br>*Не кусаю, не брашу*<br>*І ад хаты - ні на крок,*<br>*Бо завуся я ... (замок)*<br><br>Абвядзіце фламастэрамі замок і размалюйце. Давайце крочым далей. ... | 17 | Аркушы з загадкамі і выявамі адгадак. |
| Работа з карткамі | Зараз вы атрымалі частку паштоўкі, знайдзіце сярод групы такія ж часткі, каб атрымалася цэлая паштоўка. *(Разрэзаць паштоўкі альбо малюнкі па колькасці прысутных, каб атрымаліся каманды).*<br><br>Што намалявана на вышых паштоўках?<br>У камандах вы атрымалі па аркушы. Хто намаляваны на ім? Ваш герой галодны і хоча паесці тых, хто хаваецца на фігурах. Схавайце тымі жа фігурамі жывёлаў.<br><br>Ці спадабалася вам практыкаванне? Пакажыце што ў вас атрымалася. Давайце назавем усе фігуры з якімі мы працавалі. | 9 | Карткі "Паспрабуй дагані", разрэзаныя фігуры ў чатырох экзэмплярах. |
| Рэфлексія | Мне вельмі хочацца даведацца, які ў вас настрой і што вам болей за ўсё спадабалася сёння. Калі вы атрымліваеце цацку, то кажаце, які ў вас настрой, што спадабалася сёння, і перадаеце іншаму па коле.<br><br>Устанем у кола і скажам адзін аднаму: "Дзякуй!" | 3 | Спатрэбіцца цацка. |

# А 

Абрыкосы, апельсіны
І чубаты ананас
Мы нясём для Ангеліны,
Што чакае ў госці нас.

На дзвярах заўжды вішу —
Не кусаю, не брашу
І ад хаты — ні на крок,
Бо завуся я... (замок)







Ён у вашага замка
Нібы правая рука.
Далікатна, небалюча
Адмыкае дзверы... (ключык)



*Адгадай загадкі.*
*Аввядзі абрысы па кропках*
*і размалюй выявы.*
*Які ключык адчыніць замок?*

Я звіню за ўсіх гучней:
«Гаспадар, прымай гасцей!»
Вы за звонкі галасок
Клічаце мяне... (званок)







Хто ні ідзе, я прыпыняю,
Падаваць руку змушаю,
Маю вочка і званок,
Маю моцны я замок.
Толькі вартаму даверу
Гаспадар адчыніць...
(дзверы)







Расцягнуўся, лёг пад дзверы
І ўжо з месца ні на крок.
Не прапусціць у кватэру
Бруд
прыгожы... (дыванок)



*Адгадай загадкі.*
*Абвядзі абрысы па кропках*
*і размалюй выяву.*
*Дамалюй сіметрычна правую*
*частку дыванка.*

**Тэма:** "Літара Б, б, маляванне"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэмах "Вясна", "Жывёлы", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд, вывучыць літару "Б, б";
2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), развіваць моўную здагадку, садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;
3. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі і самаразвіцця, развіваць культуру ўзаемадзеяння з пагодкамі.

**Абсталяванне:**

- цацка
- аўдыёзапіс "Агатка - Жабка"
- ноўтбук, калонкі, праектар
- аркушы з вершам
- прэзентацыя "А" і "Б" / малюнкі са словамі
- фламастэры, алоўкі
- аркушы
- фарбы, ватныя палачкі, клей
- праменьчыкі жоўтага і блакітнага колеру
- сонца на ватмане
- карткі "Жывёлы і цень"

**Літаратура:**

1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю, сябры. Нагадваю, што мяне завуць Алеся. Як ваш настрой?<br><br>Давайце нагадаем адзін аднаму як нас зваць. Калі вы атрымалі цацку, вам трэба сказаць сваё імя і перадаць цацку іншаму, другі чалавек называе імя папярэдняга чалавека і кажа сваё, трэці кажа імя двух папярэдніх і сваё. Гульня называецца "Снежны ком". | 4 | Спатрэбіцца цацка. |
| Размінка | Давайце прачнемся разам з размінкай. *Рухі могуць быць любыя: і імітаванне верша, і свае практыкаванні.*<br><br>*У ароніі жыве*<br>*Маленькая жабка.*<br>*У яе на галаве*<br>*Гумавая шапка.*<br><br>*А на лапках у яе*<br>*Гумавыя боты.*<br>*Жабка весела пяе,*<br>*Бо няма работы.*<br><br>*А за жабкай наўздагон*<br>*Скача жабянятка:*<br>*Шчасьця, радасьці вагон,*<br>*Бо няма занятку.*<br><br>*«Справы, - кажа, - не мае.*<br>*Я яшчэ зялёны».*<br>*Гэтым дрэнны падае*<br>*Прыклад для Алёны.*<br><br>*Можна прапанаваць дзецям самім паказаць групе рухі.* | 2 | Аўдыёзапіс "Агатка - Жабка". |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Моўны | Хто памятае якую літару мы вывучалі на мінулым занятку? Якія словы вы ведаеце на літару "а" ці з літарай "а"? Давайце, я кажу слова з малюнкам, а вы паўтараеце *агурок, гарбуз, аловак, канапа.<br><br>А сёння мы паўтарым другую літару "Б, б". Паглядзіце на яе, якія словы вы ведаеце на гэтую літару і з гэтай літарай? *бусел, цыбуля, абрус, бабуля, яблык.<br><br>Зараз вы атрымалі аркушы з вершам, я чытаю верш, а вашая задача – абвесці фламастэрам ці алоўкам усе літары "б".<br><br>*Бусел крочыў да балота*<br>*Ды сустрэў там... бегемота:*<br>*- Ты чаго тут затаіўся?*<br>*Ці ў балота праваліўся?*<br><br>Пакажыце, што ў вас атрымалася. | 7 | Прэзентацыя са словамі альбо малюнкі "а".<br>Прэзентацыя са словамі альбо малюнкі "б".<br><br>Аркушы з вершам. |
| Мастацка-эстэтычны | А што змянілася на вуліцы з тым, як прыйшла вясна? Ці бачылі вы ўжо маленькія лісцікі і першыя кветкі? А ці малявалі вы калі-небудзь ватнымі палачкамі? Давайце паспрабуем намаляваць імі вясновыя дрэвы.<br><br>Я ўключу музыку, каб нам было весялей.<br>Пакажыце, што ў вас атрымалася, ці спадабалася вам маляваць такім чынам? | 17 | Аркушы, фарбы, ватныя палачкі.<br><br>Аўдыёзапісы дзіцячых песен, калонкі, ноўтбук. |
| Сацыяльна-камунікатыўны | Вы атрымалі карткі з жывёламі, і вам трэба на стале знайсці ад іх цень. Давайце назавем усіх жывёлаў.<br><br>Ці спадабалася вам практыкаванне? | 5 | Карткі "Жывёлы і іх цень" |
| Рэфлексія | Мне вельмі хочацца даведацца, які ў вас настрой, і што вам болей за ўсё спадабалася сёння. Вы атрымалі два праменьчыкі: жоўты і блакітны. На стале ёсць сонейка, і да яго трэба прыставіць нашыя промні. Калі вам спадабалася сёння, то вы прымацоўваеце жоўты прамень, калі не вельмі, то блакітны. | 5 | Выява сонейка на ватмане і праменьчыкі жоўтага і блакітнага колераў, кожнаму па два, клей. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | Дзякуй вам вялікі за занятак, чакаю на наступную сустрэчу. | | |




# Б

Бусел крочыў да балота
Ды сустрэў там... бегемота:
— Ты чаго тут затаіўся?
Ці ў балота праваліўся?

3

**Дзе чый цень?**








**Тэма:** "Літара В,в, вясёлка"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэме "Колеры", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, вывучыць літару "В,в";

2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), развіваць моўную здагадку, садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;

3. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі і самаразвіцця, развіваць культуру ўзаемадзеяння з пагодкамі.

**Абсталяванне:**

- газеты
- запіс дзіцячай вясёлай песні
- ноўтбук, калонкі, праектар
- фламастэры, алоўкі
- аркушы з вершам
- раздрукоўкі з вясёлкай
- карткі з выявамі спорту
- рознакаляровыя карткі / рознакаляровая папера, картон

**Літаратура:**


1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.

2) Вучымся пісаць, гуляючы. Ад 5 да 7 гадоў. Лінія-забаўніца : вучэб. нагляд. дапам. для педагогаў установ дашк. адукацыі з беларус. мовай навучання / А. У. Гарбатава. - мінск : Аверсэв, 2016.

3) Учись говорить правильно : учеб. нагляд. пособие для педагогов учреждений дошк. образования с рус. яз. обучения / Н. С. Старжинская. - 2-е изд. - Минск : Пачатковая школа, 2014.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
| --- | --- | --- | --- |
| Арганізацыйны | Вітаю! Як вашыя справы? Падыміце рукі, у каго добры настрой; патупайце ножкамі тыя, хто не хацеў сёння ўздымацца; пагляскайце тыя, хто еў кашу, паскокайце тыя, хто хоча згуляць у гульню. | 3 | |
| Размінка | У кожнага ёсць кавалак паштоўкі, знайдзіце ў каго другая частка, каб зрабіць цэлую паштоўку. Добра, гэта і ёсць вашыя пары. Кожная пара бярэ разварот газеты. Станавіцеся кожны на сваю частку, і пад музыку мы будзем разам танчыць і паўтараць рухі за мной. Калі музыка спыняецца, то мы складаем газету ўдвая. Пераможа тая пара, якая застанецца на газеце, і не стане на падлогу. | 5 | Газета і запіс песні. |
| Моўны | Сёння мы вывучаем літару "В,в". Глядзіце, якія словы пачынаюцца з гэтай літары *верабей, вясёлка, вавёрка, вішня, вясна. (малюнкі альбо прэзентацыя)<br>На аркушах з вершам абвядзіце фламастэрам усе літары "В,в".<br><br>*Верабей гасцей склікае,*<br>*Каб хутчэй ляцелі:*<br>*Ён частунак смачны мае -*<br>*Вішанькі паспелі.*<br><br>Колькі ў вас літар атрымалася? Я прачытаю верш, скажыце хто склікае гасцей? А вы часта склікаеце гасцей? А што смачнага падрыхтаваў верабей? Хто любіць вішанькі? А якія ягады вы ведаеце яшчэ? | 7 | Раздрукоўкі з вершам і малюнкамі, фламастэры, прэзентацыя са словамі альбо выявы, ноўтбук, праектар. |
| Мастацка-эстэтычны | А зараз адгадайце загадку:<br><br>Свеціць сонца, дожджык льецца.<br>Я ўбачу скрозь акенца,<br>Як смяецца, бы сяброўка,<br>Каляровая ... . (Вясёлка)<br><br>На аркушах, што перад вамі, дамалюйце вясёлку па пункціры лініі і расфарбуйце. Для гэтага скарыстайцеся падказкай: Чакай Атакі Жаўнера, | 15 | Аркушы з вясёлкай, фламастэры, алоўкі. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | Заўсёды Будзь Смелым, Фазан. Памятайце, што першая літара кожнага слова адпавядае першай літары назвы колеру.<br><br>Пакажыце, што ў вас атрымался і паглядзіце іншыя вясёлкі. | | |
| Праца з карткамі | А якія віды спорту вы ведаеце? Паглядзіце на малюнкі, назавіце від спорту і паспрабуйце сказаць як называюцца спартоўцы, якія займаюцца гэтым спортам. | 6 | Карткі. |
| Рэфлексія | На стале ёсць карткі розных колераў, выберыце адзін і паспрабуйце сказаць, чаму вам спадабаўся гэты колер? *Трансляцыя колераў у раздзеле **Рэфлексія**. Падчас рэфлексіі задаваць дадатковыя пытанні:* Ці з'яўляецца гэта тваім улюбёным колерам? А якія асацыяцыі ты маеш з гэтым колерам? | 4 | Рознакаляровыя карткі. |





# В

**В**ерабей гасцей склікае,
Каб хутчэй ляцелі:
Ён частунак смачны мае —
**В**ішанькі паспелі.

4

# Вясёлка-сяброўка

1 Адгадай загадку.

*Свеціць сонца, дожджык льецца.*
*Я ўбачу скрозь акенца,*
*Як смяецца, бы сяброўка,*
*Каляровая ... . (вясёлка)*

2 Дамалюй вясёлку: правядзі па пункціры лініі.

3 Расфарбуй вясёлку. Для гэтага карыстайся падказкай: **Ч**акай **А**такі **Ж**аўнера, **З**аўсёды **Б**удзь **С**мелым, **Ф**азан. Памятай, што першая літара кожнага слова адпавядае першай літары назвы колеру.

4 Расфарбуй малюнак.



**Тэма:** "Ягады"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэме "Ягады", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд;
2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), развіваць моўную здагадку, садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;
3. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі і самаразвіцця, развіваць культуру ўзаемадзеяння з пагодкамі.

**Абсталяванне:**

- дзіцячая вясёлая песня
- ноўтбук, калонкі, праектар
- прэзентацыя з ягадамі
- раздрукоўкі з выявамі ягад у двух экзэмплярах
- раздрукоўкі з заданнямі
- фламастэры, алоўкі

**Літаратура:**

1) Пишем цифры и знаки / Н. Л. Ковалевская - Минск : Аверсэв, 2014.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю вас і рада ўсіх бачыць. Што ў вас новага? Як вам сённяшняе надвор'е? А што елі на сняданак? | 1 | |
| Размінка | Добра, зараз давайце ўстанем у кола і пад музыку будзем паўтараць за мной: *рухі нібыта мыем галаву, як расчосваецца малпачка, змерзлі вушкі - расціраем, мы вожыкі, масаж вуснаў, пагрэць рукі, пацерці калені, паскокаць як мячыкі і інш.* | 3 | Вясёлая песня *"Агатка" - Майскі жук" |
| Моўны | Ці любіце вы ягады? Якія менавіта? Мы вывучым розныя ягады на беларускай мове.<br>Паглядзіце на першую выяву ягады.<br>**Суніцы, чарніцы, маліны, парэчкі, агрэст, журавіны, трускалкі, каліны, брусніцы, ажыны, бружмель, касцяніцы, кавун.*<br>Якія ягады вы любіце больш за ўсё? Даваце паглядзім прэзентацыю яшчэ раз і паўтарым назвы ягад за мной.<br>Уключым песню з назвамі ягад і паспрабуем спяваць разам са спявачкай.<br>*Падчас песні пераключаць слайды, каб са словамі былі асацыяцыі з фотаздымкамі ягад.* | 15 | Прэзентацыя з ягадамі, песня "Агатка - Кавун", калонкі, праектар, кампутар. |
| Актуалізацыя ведаў | Праверым як мы запомнілі ягады. Устанем і ўявім, што мы на выспе, а вакол нас вада, нам трэба перабрацца на іншы бераг. Аркушы з выявамі ягад - гэта нашыя маленькія выспачкі па якіх мы будзем перасоўвацца. Вы ідзеце па тым шляху, дзе ведаеце назвы ягад.<br><br>*Выкладчык дапамагае навучэнцам і падказвае ягады.*<br><br>Хто хоча прайсці яшчэ раз? | 7 | Раздрукоўкі з ягадамі ў двух экзэмплярах. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Творчае выкарыстоўванне ведаў | На аркушах у вас ёсць заданне дапамагчы героям праехаць па сцяжынках. І наступнае прыктыкаванне - гэта патрэніравацца ў напісанні рысачак і палачак. | 12 | Раздрукоўкі з заданнямі. |
| Рэфлексія | Якія ягады вашыя ўлюбёныя? А якія ягады запомнілі яшчэ?<br><br>Дзякуй за занятак, давайце разам адзін аднаму скажам: "Дзякуй". | 2 | |





**Дапамажы героям праехаць па дарожках, пракрэслі лініі алоўкам**



















**Патрэніруйся пісаць палачкі**











**Тэма:** "Літара Г, г, пошук прадметаў, надвор'е"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэме "Надвор'е", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд;
2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;
3. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі, фармаванне ветлівасці.

**Абсталяванне:**

- аўдыёзапіс "Агатка - размінка Лясная"
- ноўтбук, калонкі, праектар
- малюнак з пераблытаным сюжэтам
- выявы са словамі ці прэзентацыя "Г"
- фламастэры, алоўкі
- мультфільм "Свінка Пэпа - Навальніца"
- шарыкі ці бусіны
- рознакаляровыя стужкі

**Літаратура:**

1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.
2) Развиваем мышление, внимание, память / Е. Лазарь. - Москва : Эксмо, 2016.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю вас, як ваш настрой сёння? А вы добра ведаеце як каго зваць? Давайце прыгадаем па коле ўсе імёны. Ці ёсць у нас імёны, якія паўтараюцца? Паліна, а якое тваё ўлюбёнае імя? А ў цябе, Ягор? | 3 | |
| Размінка | Самы час наладзіцца на работу. Слухаем песенку і паўтараем рухі за мной.<br><br>Размінка "Лясная" з распісанымі дзеямі:<br><br>*Спіць сава ў лістоце шатаў,* (рух плечыкамі наперад, наперад, наперад – і назад распраўілі)<br>*Круціць пысай лось губаты,* (галавой налева і направа, потым кола)<br>*Чапля ў ладкі стала пляскаць,* (рукамі-“крыламі” разводзім шырока-шырока на ўдых і рэзка зводзім перад сабой на выдых)<br>*А ля норкі танчыць ласка*, (круцім усім целам, як ласачкі)<br>*Вожык тупае праз мох* (сталі на калены ды рукі, перавальваемся)<br>*Размінае лапы воўк* (цягнем руку наперад, нагу назад).<br>*Ды паўзе ў лагчынах зранку*<br>*Змейка тонкая - мядзянка* (робім лодачку, паказваем, як мядзянка бяз рук і ног узнімае галаву, аглядаецца). | 4 | Аўдыёзапіс "Агатка - Размінка Лясная", ноўтбук, калонкі. |
| Творчае выкарыстоўванне ведаў | Паглядзіце на малюнак перад вамі. Што мастак намаляваў не так? А як павінна быць? | 5 | Малюнак з пераблытаным сюжэтам. |
| Моўны | Якія словы пачынаюцца на літару "Г,г"? Паглядзіце на малюнкі, што там за словы схаваныя? *грыб, гадзіннік, гузік, агрэст.<br><br>Перад вамі аркуш з вершам. Мы шукаем літары "Г,г" і абводзім іх фламастэрам.<br><br>*Зашумеў гарэза-дожджык -*<br>*Пад грыбок схаваўся вожык*<br>*І яго сям'я таксама:* | 9 | Выявы са словамі, раздрукоўкі з вершам, фламастэры, алоўкі. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | *Дзве дачушкі, сын і мама.*<br><br>Паслухайце верш. Скажыце, чаму схаваўся вожык пад грыбок? А хто там быў яшчэ? А вы калі-небудзь траплялі пад дождж? | | |
| Успрыманне мовы на слых | А хто ведае што такое навальніца? Паглядзім чаму свінка Пэпа любіць навальніцы?<br>Ці спадабаўся мульцік? Чаму Пэпа любіць навальніцы? А вы скакалі па лужынах? | 7 | Мультфільм "Свінка Пэпа - Навальніца", праектар, ноўтбук, калонкі. |
| Псіхалагічная разрадка | Вазьміце па аднаму шарыку і пакатайце яго паміж далонямі. Які ён навобмацак? А паспрабуйце яго сагрэць, пашкадаваць, астудзіць, перакладваць з рукі ў руку, паслухаць, сказаць яму нешта. Ці спадабаліся вам такія заданні?<br><br>*Хутчэй за ўсё дзеці захочуць забраць з сабой шарыкі.* | 6 | Шарыкі ці бусіны. |
| Рэфлексія | Выбярыце стужку любога колеру, а цяпер зробім з вашых стужак касічку. Глядзіце, якіх колераў у нас болей? А ці спадабаўся вам занятак? А што спадабалася больш за ўсё? Прыйдзеце ў наступную суботу? А чаму?<br><br>Дзякуй за занятак! | 6 | Рознакаляровыя стужкі. |





**Што мастак намаляваў няправільна?**
**Растлумач, чаму ты так вырашыў?**










Г
Зашумеў гарэза-дожджык —
Пад грыбок схаваўся вожык
І яго сям'я таксама:
Дзве дачушкі,
сын і мама.
5

**Тэма:** "Літара Д, д, маляванне пальцамі"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд, вывучыць літару Д, д;
2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), садзейнічаць развіццю ўменне ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;
4. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі, фармаванне ветлівасці, развіваць культуру ўзаемадзеяння з аднагодкамі.

**Абсталяванне:**

- цацка
- музыка
- калонкі, наўтбук, праектар
- малюнкі з выявамі слоў / прэзентацыя
- раздрукоўкі з выявай дома
- фарбы, вада, шклянкі "непралівайкі", вада
- вільготныя сурвэткі, анучкі
- раздрукоўкі з практыкаваннямі
- маленькія аркушы

**Літаратура:**

1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.
2) 200 развивающих упражнений для подготовки ребёнка к школе : практическое пособие / И. В. Житко, М. М. Ярмолинская. - Минск : ЮнипрессМакет, 2015.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю вас усіх і вельмі рада бачыць.<br>Глядзіце, якая цацка ў мяне ў руках. Вазьміце яе, памацайце, якая яна? А хто гэта? А якая ваша ўлюбёная цацка? Давайце па коле высветлім, у каго якая цацка ўлюбёная.<br>А хто памятае, з кім любіць гуляцца Уладзь? А Паліна? | 2 | Цацка. |
| Размінка | Уключым музыку і будзем танчыць так, як хочацца, але калі музыка спыняецца, вы павінны замерці на месцы. | 3 | Музыка, калонкі, ноўтбук. |
| Моўны | Сёння мы знаёмімся з літарай "Д, д". Паглядзіце на словы, якія пачынаюцца з яе: дом, дзяўчынка, дзядуля, дрэва, дождж.<br><br>У вершах знайдзіце літару "Д,д" і фламастэрам абвядзіце. Колькі літар "Д" вы знайшлі?<br><br>*Хмаркі дожджыкам заплачуць* -<br>*Па зямлі дажджынкі скачуць.*<br>*А ў траве гараць расінкі* -<br>*Сонца яркія іскрынкі.*<br><br>Паслухаем верш, пра што ён? Якія словы на "д" вы ведаеце? | 8 | Малюнкі з выявамі слоў, фламастэры, алоўкі, раздрукоўкі з вершамі. |
| Мастацка-эстэтычны | Дом таксама пачынаецца з літары "д" і мы будзем яго зараз размалёўваць незвычайна - пальцамі.<br>Бярыце фарбы і асцярожна мачыце падушачкі пальцаў у колер і дакранайцеся да сваёй размалёўкі.<br>Пакажыце, што ў вас атрымалася. | 11 | Аркушы з домам, фарбы, вада, шклянкі "непралівайкі", вільготныя сурвэткі і анучкі. |
| Творчае выкарыстоўванне ведаў | На аркушах ёсць заданні. Давайце іх разам зробім.<br>1) Злучыць кропачкі; 2) Дапамагчы караблю даплыць да выспы; 3) Скапіяваць ракету; 4) Дамаляваць каралі; 5) Абвесці літару па прыкладзе.<br><br>Вы стараліся? Пакажыце, што ў вас атрымалася. | 9 | Раздрукоўкі з практыкаваннямі. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Фізкультхвілінка | Мы добра паработалі і самы час размяць нашыя пальчыкі і ручкі.<br>Паўтарайце рухі за мной *(рукамі імітаваць тое, што адбываецца ў вершы)*:<br><br>*Мы ў двор пайшлі гуляць:*<br>*Бабу снежную ляпілі,*<br>*Птушак крошкамі кармілі,*<br>*З горкі мы яшчэ каталісь,*<br>*І ў снягу разам валялісь,*<br>*Усе ў снезе дамой прыйшлі,*<br>*З'елі суп і спаць ляглі.* | 2 | |
| Рэфлексія | На маленькіх аркушах намалюйце мне ліст-пасланне, пакажыце праз малюнак ваш настрой, можа нехта захоча намаляваць тое, што яму больш за ўсё спадабалася на занятку.<br>А цяпер мне патрэбны паштальён, які збярэ ўсе лісты і аддасць мне.<br><br>Дзякуй вялікі за занятак, да пабачэння. | 5 | Маленькія аркушы. |




Д
Хмаркі дожджыкам заплачуць —
Па зямлі дажджынкі скачуць.
А ў траве гараць расінкі —
Сонца яркія іскрынкі.
6

**1. Злучы кропкі**



**2. Дапамажы капітану прывесці карабель да выспы**



**3. Скапіруй**



**4. "Збяры" (дамалюй) каралі ў адпаведнасці з узорам**



**5. Абкрэслі літару па кропках**



**Тэма:** "Літара З,з, гародніна, садавіна"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэме "Гародніна і садавіна", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд, вывучыць літару З, з;

2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), садзейнічаць развіццю ўменя ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;

3. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі, фармаванне ветлівасці.

**Абсталяванне:**

- клубок нітак
- малюнкі са словамі
- малюнкі слоў / прэзентацыя "з"
- фламастэры, алоўкі
- раздрукоўкі з вершам
- раздрукоўкі з заданнямі
- малюнкі з жывёламі, восеньскае лісце, клей
- пялёсткі з каляровай паперы

**Літаратура:**

1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.

2) Я СУПЕРучитель. Игры в дорогу - СПб.: Питер, 2015.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю, давайце скажам адзін аднаму: "Прывітанне!". Калі вам даюць клубочак нітак, то вы чапляеце і перадаеце іншаму. А пытанне для вас сёння такое: Як вас ласкава называюць дома? Запамінайце мянушкі і ласкавыя імёны.<br>Мяне ў дзяцінстве называлі ..., перадаю клубочак Ягору... .<br>А цяпер мы вяртаем клубочак назад і прыгадваем, як каго называюць ласкава.<br><br>Возьмем адзін аднога за рукі і ўсміхнемся. Які ў вас настрой? | 5 | Клубок нітак. |
| Размінка | На падлозе ляжаць розныя выявы, якія пачынаюцца з вывучаных намі літар. Вашая задача стаць на выяву і сказаць, што гэта.<br>*дом, вясёлка, трускалкі, агурок, аловак, бусел і інш.<br><br>Памяняйцеся і скажыце як называецца тое, на чым вы стаіце. | 4 | Малюнкі са словамі. |
| Моўны | Сёння мы знаёмімся з літарай "З,з". Паглядзіце на словы, якія пачынаюцца з яе: заяц, зязюля, зорка, зубр.<br><br>У вершы знайдзіце літару "З,з" і фламастэрам абвядзіце. Колькі літар "З" вы знайшлі?<br><br>*Зоркі ў небе зацвілі,*<br>*Нібы кветкі на зямлі.*<br>*А рагаты месяц збоку*<br>*Пазірае хітрым вокам.*<br><br>Паслухаем верш, пра што ён? Якія словы на "з" вы ведаеце? | 8 | Малюнкі альбо выявы слоў, фламастэры, алоўкі, раздрукоўкі з вершам. |
| Творчае выкарыстоўванне ведаў | Паглядзіце на малюнак, вашая задача прайсці да выхаду толькі па гародніне. Давайце прыгадаем, што такое гародніна, і якую гародніну вы ведаеце.<br>Калі я называю гародніну, вы пляскаеце ў ладкі, а калі садавіну - тупаеце: груша, морква, бурак, яблык, гарбуз, радыс, памяранец, агурок, абрыкос, ківі, памідор, банан. | 4 | Раздрукоўкі з заданнямі. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мастацка-эстэтычны | Вы прынеслі восеньскае лісце сёння з сабой. Дзе вы яго сабралі? Паглядзіце на аплікацыю, што я зрабіла ўчора, выбярыце любы малюнак і абклейце яго лісцем. | 15 | Малюнкі, лісце, клей. |
| Рэфлексія | Вазьміце пялёсткі любога колеру, які вам болей падабаецца? Давайце іх прыклеім разам, і зробім кветку нашага настрою.<br><br>Што вам спадабалася на занятку?<br><br>Давайце скажам адзін адному: "Дзякуй!" і паляскаем у ладкі. | 4 | Пялёсткі для кветкі рознага колеру і памераў. |




З
Зоркі ў небе зацвілі,
Нібы кветкі на зямлі.
А рагаты месяц збоку
Пазірае хітрым вокам.
10

*Вучымся назіраць.*

**Збяры ўраджай з гародніны – кроч па клетачках: угару, уніз, улева, управа**



**Тэма:** "Лічбы"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: фармаваць лексічныя навыкі па тэме "Лічбы", актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, развіваць агульны светапогляд;

2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), развіваць моўную здагадку, садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;

3. Выхаваўчыя: актывізаваць культуру мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі і самаразвіцця, развіваць культуру ўзаемадзеяння з аднагодкамі.

**Абсталяванне:**

- ноўтбук, калонкі, праэктар
- відэа "Развіваючае відэа для дзяцей Умачка - лічбы"
- аркушы з заданнямі
- фламастэры, алоўкі, асадкі
- нажіцы, клей
- раздрукоўкі з жывёламі
- восеньскае лісце
- цацка

**Літаратура:**

1) Пишем цифры и знаки / Н. Л. Ковалевская - Минск : Аверсэв, 2014.

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю, які ў вас настрой? Гатовыя займацца?<br><br>Вазьміцеся за рукі, паглядзіце ў вочы суседа і скажыце яму нейкія добрыя словы, сусед кажа: "Дзякуй, мне вельмі прыемна" і кажаце камплімент наступнаму. *Выкладчык пачынае, падбадзёрвае іншых, дапамагае.* | 3 | |
| Размінка | Я буду называць слова, а вы шукаць слова наадварот. На прыклад, калючы ? - *пушысты.<br>Маленькі - ..., спёка - ..., вялікі - ..., халадэча - ..., класціся спаць - ..., дабрыня - ..., чысты - ..., цяжкі - ..., брудны - ..., казаць - ..., прачынацца - ..., раніца - ..., ноч - ..., вечар - ..., дзень - ..., сонца - ....<br>Малайцы, рушым далей. | 5 | |
| Творчае азнаямленне і выкарыстоўванне ведаў | Хто ўмее лічыць? Давайце разам палічым да 10. О, якія малайцы, а цяпер паслухаем песенку пра лічбы і будзем падпяваць.<br>Давайце яшчэ раз палічым, але я буду вам казаць як лічыць: шэптам, ціха, гучна, вельмі гучна, хіца, шэптам. | 7 | Youtube.com<br>Карыстальнік: Развіваючае відэа для дзяцей Умачка<br>Ноўтбук, калонкі. |
| Актуалізацыя ведаў | Колькі дзвярэй у нашым пакоі? *Пытанне павінна быць такое, каб дзеці адказалі: "Адзін, адны, адна!"*<br>Гэтую лічбу мы і будзем прапісваць. Глядзіце, у вас ёсць аркушы, першае заданне абвесці калючкі ў вожыка. ... | 10 | Раздрукоўкі з лічбай 1. |
| Мастацка-эстэтычны | Вазьміце аркушы паперы, фламастэр і абвядзіце сваю руку. Цяпер выражам і прыклеім у выглядзе кветкі. *Дзецям трэба будзе дапамагчы выразаць рукі.*<br>Чаго не хапае? Так, трэба дадаць сярэдзінку кветкі. Ці падабаецца вам тое, што ў нас атрымалася? | 11 | Аркушы, фламастэры, алоўкі, нажніцы, клей. |
| Рэфлексія | Калі ў вас у руках цацка, то вы адказваеце на пытанні і перадаеце цацку далей па коле. Што ў цябе атрымалася сёння вельмі добра? Што табе не спадабалася? А што было складаным? А што было лёгкім? А чаму б ты хацеў навучыцца? А што ў цябе не атрымліваецца? А які ў цябе настрой?<br><br>Зараз мы развітаемся за руку і ўсміхнемся адзін аднаму. | 4 | Цацка. |



**Бяжыць вожык —**
**Тупу-туп!**
**Сам калючы,**
**Востры зуб.**






1

1 = 1

\+ –

> <

= =



12

**Тэма:** "Літара К,к, багоўка"

**Мэты ўрока:**

1. Адукацыйныя: актывізаваць і паляпшаць слоўнікавы запас навучэнцаў на беларускай мове, вывучыць літару "К,к", развіваць агульны светапогляд;
2. Развіваючыя: развіваць агульныя кагнітыўныя здольнасці (памяць, лагічнае мысленне, увага), развіваць моўную здагадку, садзейнічаць развіццю ўмення ажыццяўляць рэфлексіўную дзейнасць;
3. Выхаваўчыя: актывізаванне культуры мыслення, пачуццяў і прамоўных паводзінаў, ствараць умовы для сацыялізацыі і самаразвіцця.

**Абсталяванне:**

- цацка
- дзіцячая вясёлая музыка
- ноўтбук, калонкі, праэктар
- выявы са словамі на "К, к" /  прэзентацыя
- раздрукоўкі з вершам
- фламастэры, алоўкі
- пераблытаныя жывёлы
- нарыхтоўкі з паперы, аплікацыя багоўкі

**Літаратура:**


1) Азбука ў вершах і малюнках / Кажура В. В., мастак Саковіч А. Я. - Мінск: Пачатковая школа, 2014.
2) Развиваем мышление, внимание, память / Е. Лазарь. - Москва : Эксмо, 2016

| Этап | Змест | Час | Нататкі |
|---|---|---|---|
| Арганізацыйны | Вітаю, хто ведае як мяне завуць? А хто ведае сваіх суседзяў? Зараз мы пусцім цацку па коле і скажам сваё імя і імя суседзяў. | 3 | Цацка. |
| Размінка | Я як вы звычайна вітаецеся?  А хто ведае як можна павітацца? Мы ўстанем і будзем хадзіць па пакоі і вітацца рознымі спосабамі. Я ўключаю музыку і мы ходзім, а калі музыка спыняецца, то я кажу што мы бдузем рабіць: вітаемся спінай, каленкамі, вітаемся лакцямі, пяткамі, за руку, за вушка, валасамі, пальцамі. | 3 | Спатрэбіцца вясёлая музыка. "Агатка - Матылёк". |
| Моўны | Якія літары мы ўжо вывучылі?<br>А якія словы на літару "К" вы ведаеце?<br>Сёння мы вывучаем літару "К, к". Словы, якія пачынаюцца з гэтай літары ці ў іх ёсць гэтая літара: кураня, качка, шклянка, рамонак, хакей, камбайн.<br>На аркушах з вершам знайдзіце літару "К" і абвядзіце яе. Колькі літар "к" вы налічылі?<br><br>*Куры, качкі, кураняткі*<br>*Дружна пляскаюць у ладкі,*<br>*певень грае на гармоні,*<br>*А індык у бубен звоніць.*<br><br>Выкладчык чытае верш і задае пытанні:<br>Віка, хто пляскае ў ладкі? А што робіць певень? Ягор, а хто ў бубен звоніць?<br>А хто можа пералічыць усіх жывёлаў, што былі ў вершы? | 8 | Раздрукоўкі з вершам. Выявы са словамі на літару "К,к". |
| Творчае выкарыстоўванне ведаў | Паглядзіце на аркуш з выявамі пераблытаных жывёлаў. Якіх жывёлаў вы бачыце?<br>*карова, заяц, котка, гусь. Якую гародніну? *бурак, цыбуля, бульба. Якую садавіну? *груша, банан, яблык | 5 | Раздрукоўкі з пераблытанымі жывёламі. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мастацка-эстэтычны | А зараз мы будзем рабіць сапраўдную багоўку. Глядзіце, якога яна колеру? | 17 | Нарыхтоўкі з паперы, клей, гатовая аплікацыя для прыкладу. |
| Рэфлексія | Калі вы бярэце цацку, то кажаце што вам сёння больш за ўсё спадабалася. А чаму?<br><br>Дзякуй вялікі! Чакаю на вас на наступнай сустрэчы. | 4 | Цацка. |


К
Куры, качкі, кураняткі
Дружна пляскаюць у ладкі,
Певень грае на гармоні,
А індык у бубен звоніць.
13

**Якія жывёлы тут схаваліся? Назаві іх.**

**Якая жывёла лішняя і чаму?**



13

**Якія прадметы тут схаваліся? Назаві іх.**

**Які прадмет лішні і чаму?**





12

